

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№9 (верасень), 2014

# Мяжа




## На Берасцейшчыне абмяркоўвалі грамадскія праблемы

(старонка 9)

## ЗЬМЕСТ

## Беларускі клас у Берасці так і не з’явіўся

Не менш за пяць чалавек патрэбна для таго, каб ухвалілі заяву бацькоў на стварэнне беларуска-моўнага класа. Такую лічбу агучылі ў адказе на зварот беларускамоўнай сям’і, прадстаўнікі берасцейскай сістэмы адукацыі.

Непасрэдна кіраўнікі школ увогуле рэкамендуюць назбіраць не менш за 24 чалавекі. Кажа маці Камілы Ляўчук, Мілана Харытонава, якая намагалася стварыць першы беларускі клас у Берасці:

- Дачка мая і па-руску размаўляе, бясспрэчна. Але ёй хацелася, каб яна прыйшла ў школу, і там ўсё было па-беларуску. Такая мара. Мы ж дома таксама размаўляем і па-руску, і па-беларуску – як здараецца. Мы размаўлялі ў школе па-беларуску, і ніхто там ад нас не шугаўся, не глядзелі, як на іншапланецянаў. Здаецца. усё было нармальна больш-менш.

У выніку шасцігадовая дачка Міланы Харытонавай, пайшла ў школу з рускай мовай навучання. Аднак бацькі заўважылі, што прынамсі некаторыя з настаўнікаў спрабавалі камунікаваць з першакласніцай па-беларуску.

http://www.racyja.com/hramadstva/belaruskaga-klasa-u-berastsi-tak-i-ne-z/

## Алена Анісім: Неабходна дзяржаўная праграма па папулярызацыі роднай мовы

1 верасня пачаўся новы навучальны год, але сітуацыя з беларускамоўным навучэннем застаецца сумнай. Намеснік старшыні Таварыства беларускай мовы Алена Анісім распавядае, што сёння трэба больш працаваць з бацькамі, а таксама неабходныя рэформы на дзяржаўным узроўні.

Напрыклад, у мінулым годзе ў беларускамоўных класах Менска навучалася ўсяго 1,6% школьнікаў. Гэта зусім малая лічба. Зараз сітуацыя ў лепшы бок не змянілася. Па ўсёй рэспубліцы.

Алена Анісім: Тэндынцыі да паляпшэння не адчуваецца. Хіба што можна казаць пра нейкія дэкларатыўныя рэчы. Але ж тут шмат што залежыць ад саміх людзей. Калі яны не будуць разумець таго, што дзяцей трэба навучаць на мове, што неабходна ствараць беларускамоўнае асяроддзе, то нічога не зменіцца. Можна,



безумоўна, зверху аддаваць загады, але гэта не азначае, што знізу будзе падтрымка. Патрэбен узаемны рух.

**РР: Чаму бацькі так неахвотна аддаюць дзяцей у беларускамоўныя класы?**

Алена Анісім: Таму што не бачаць у гэтым доўгатэрміновых перспектываў. Маўляў, сёння беларускамоўны клас ёсць, а заўтра яго можа не стаць. А бацькам жа хочацца нейкай прадказальнасці ў паводзінах, таму што размова ідзе пра іх дзетак. Трэба прызнаць, сітуацыя насамрэч катастрафічная.

**РР: Якой яна вам бачыцца яна праз 5-10 гадоў?**

Алена Анісім: Трэба працаваць на тое, каб у грамадстве саспела думка, што ўсё ва ўласных руках. Не варта спадзявацца, што гэтыя пытанні вырашыць нейкі чыноўнік. Мы зараз бачым, што многія маладыя людзі гуртуюцца, стараюцца штосьці рабіць у плане беларускамоўнай адукацыі. Але трэба падключаць найноўшыя сродкі. Нейкія адукацыйныя праграмы на тэлебачэнні, нешта яшчэ. Там ёсць нейкія асобныя штрыхі, але ж неабходна выразная дзяржаўная праграма. Напрыклад, у 70-я, калі мы навучаліся, быў цэлы шэраг беларускамоўных дзяржаўных адукацыйных праграм. Была такая рэч, як “Тэлебачанне – школе”. Зараз гэтага практычна няма. І настаўнік мусіць сам быць наватарам. Дзяржаўная праграма магла б вырашыць пытанне, як праз адукацыю, культурную працу, прасоўваць беларускую мову ў грамадства. Мова тады жыве, калі навокал будзе беларускамоўнае асяроддзе.

**РР: А зараз такой праграмы няма?**

Алена Анісім: Ва ўсялякім разе, я пра такую не ведаю.

http://www.racyja.com/hramadstva/alena-anisim-neabkhodna-dzyarzhaunaya-pr/

## Уладзімір Вялічкін: Людзям на Данбасе прамылі мазгі

Інфармацыйная вайна з Расеяй і здрадніцтва мясцовых чыноўнікаў стварылі такую сітуацыю ў дзвюх абласцях Украіны – Луганскай і Данецкай, што мясцовыя жыхары перасталі адчуваць сябе ўкраінцамі. Пра гэта кажа праваабаронца з Берасця Уладзімір Вялічкін, які жыў амаль 2 месяцы ў Мікалаеўскай вобласці, на мяжы ваюючых тэрыторый:

- Зараз і ў Беларусі адключаюць украінскія каналы. Там таксама адключылі украінскія каналы, давалі вельмі абмежаваную інфармацыю. Уся інфармацыя была з боку Расеі. Людзям грунтоўна прамылі мазгі, яны страцілі арыентацыю ў Сусвеце, дзе яны жывуць і робяць. Прабачце, калі ў чалавека больш за 20 гадоў украінскі пашпарт, а ён бегае і крычыць: “ Я рускі!” – гэта нешта не тое з галавой.

Па словах Вялічкіна, аналагічнае прамыванне мазгоў адбываецца і ў Беларусі. Калі людзі карыстаюцца толькі ілжывай і агрэсіўнай інфармацыяй не толькі беларускіх СМІ, а і расейскіх адначасова.

http://www.racyja.com/palityka/uladzimir-vyalichkin-lyudzyam-na-danbase/

## Уладзімір Вялічкін: Праводзіць пікеты па-ранейшаму не дазваляюць

Адказ адносна запланаваных гарадскімі ўладамі мерапрыемстваў у дазволеных месцах для правядзення дэмакратычнымі сіламі пікетаў, мітынгаў і шэсцяў так і не атрымаў берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін. Неабходнасць звароту была звязана з сістэматычнымі адмовамі ў правядзенні пікетаў па прычыне правядзення іншых імпрэзаў у парку воінаў-інтэрнацыяналістаў або на стадыёне “Лакаматыў”:

- Напісаў ліст у гарвыканкам з просьбай, каб мяне азнаёмілі са спісам мерапрыемстваў на гэты год. На вялікі жаль, на сённяшні дзень пакуль што адказу не атрымаў. Месца, у якім мы прасілі правесці мерапрыемства, прызначана нашымі гарадскімі ўладамі. То бок яны нават не дазваляюць праводзіць нешматлікія пікеты ў вызначаных імі самімі месцах.

Апошні пікет, на які падавалі заяўку берасцейскія праваабаронцы, быў на тэму наяўнасці палітзняволеных у краіне. Прадстаўнікі ўлады забаранілі гэтае мерапрыемства па прычыне святкавання дня будаўніка.

На думку Уладзіміра Вялічкіна, яны проста спужаліся таго, што падчас пікету ў парку будзе шмат людзей, якія змаглі б атрымаць сапраўдную інфармацыю пра сітуацыю ў Беларусі.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-vyalichkin-pravodzits-piket/

## Уладзімір Вялічкін папрасіў прадставіць план мерапрыемстваў

Берасцейскі праваабаронца Уладзімір Вялічкін папрасіў мясцовыя ўлады прадставіць планы мерапрыемстваў на гэты год. Адпаведны зварот ён накіраваў у Берасцейскі гарадскі выканаўчы камітэт. Падставай для напісання ліста сталі адмовы ў правядзенні пікетаў і шэсцяў прастаўнікам дэмакратычнай супольнасці Берасця. Прычына – нібыта правядзенне загадзя запланаваных у тых жа месцах уладамі мерапрыемстваў, – распавёў праваабаронца:

- У сваім адказе аб адмове ў мерапрыемстве гарвыканкам спаслаўся на рашэнне Берасцейскага гарвыканкама ад 18.12. 2013 года за №2675. У гэтым рашэнні як раз згадваецца менавіта план мерапрыемстваў на 2014 год. Вось таму я вырашыў пацікавіцца гэтым планам мерапрыемстваў і напісаў адпаведную заяву.

Калі планы мерапрыемстваў гарадскіх уладаў будуць у адкрытым доступе, тады будзем адразу ведаць ці варта падаваць заяўку на правядзенне таго ці іншага мерапрыемства, каб не рабіць дарэмную працу, – дадаў Уладзімір Вялічкін.

http://www.racyja.com/hramadstva/uladzimir-vyalichkin-paprasiu-pradsta/

## У Бярозе праваабаронцы працягваюць змагацца за права на пікеты

Бярозаўскія ўлады не збіраюцца мяняць сваё рашэнне ад 2010 году “Аб парадку правядзення масавых мерапрыемстваў у Бярозаўскім раёне”.

“Згодна з пастановай Савета Міністраў ад 2012 году, дзе сказана,

што райвыканкам павінен сам звяртацца ў міліцыю наконт аховы правапарадку на масавым мерапрыемстве, атрымаўшы заяву на мерапрыемства”, – кажа праваабаронца Сяржук Русецкі:

- Згодна з рашэннем гарвыканкаму мы павінны заключаць дамову з РАУСам яшчэ да падачы заяўкі. І, фактычна, самой заявы няма, а РАУС ужо павінен абмяркоўваць усе тыя моманты, якія ён павінен абмяркоўваць толькі пасля падачы гэтай заяўкі.

Але пасля адмовы райвыканкама, падпісанай наменікам старшыні Яўгенам Тарасюком, праваабаронцы атрымалі адказ ад намесніка старшыні Берасцейскага абласнога выканаўчага камітэта Леаніда Цупрыка, дзе паведамляецца, што райвыканкаму дадзена даручэнне прывесці іх рашэнне ў адпаведнасць з пастановай Савета міністраў.

http://www.racyja.com/hramadstva/u-byaroze-pravaabarontsy-pratsyagvayuts-z/

## У Брэсце ўзгадалі пра зніклых

У цэнтры горада, каля агароджы Свята-Мікалаеўскай праваслаўнай царквы, былі ўсталяваны велізарныя партрэты выкрадзеных Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, лёс якіх застаецца невядомым.

Побач з партрэтамі таксама з’явіўся стэнд, на якім распавядалася



пра гісторыю гвалтоўных выкраданняў у Беларусі. “Фізічнае знішчэнне палітычных апанентаў спынілася пасля рэзка адмоўнай рэакцыі як у краіне, так і ў свеце, - заявілі арганізатары акцыі. - Ніхто не паверыў у выпадковасць таго, што адбываецца: смерць Карпенкі, выкраданне Захаранкі, Ганчара з Красоўскім людзі звязвалі і звязваюць непасрэдна з Лукашэнкам. Тысячы людзей выходзілі з партрэтамі зніклых. Гэта спыніла забойства.

Прайшло 15 гадоў. Тыя ж самыя ўлады, якія арганізавалі забойства, зараз хочуць закрыць крымінальныя справы аб знікненнях “з прычыны заканчэння тэрміну даўніны”. Каб забылася ... Але мы памятаем, і не дамо забыць ім”.

http://spring96.org/be/news/73200

## Брэст: улады знаходзяць новыя прычыны, каб не дазволіць “непажаданыя” акцыі



Паводле слоў мясцовага праваабаронцы Уладзіміра Вялічкіна, сёлета працэдура падачы заяўкі на правядзенне масавага мерапрыемства спрасцілася, аднак зладзіць пікет, лозунгі якога не даспадобы ўладам, прасцей не стала.

Зацверджаны Брэсцкім гарвыканкамам новы парадак правядзення масавых мерапрывемстваў ужо не прадугледжвае заключэнне дамовы з міліцыяй, калі арганізатары абавязуюцца самастойна забяспечыць правапарадак. Уладзімір Вялічкін лічыць, што дамагчыся гэтага атрымалася пасля скаргаў праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў на працягу мінулага года і сёлета.

Разам з тым, адзначае Вялічкін, застаюцца яшчэ дзве ўстановы, з якімі ахвотныя правесці мерапрыемства ў Брэсце мусяць заключыць дамову. Гэта - цэнтральная гарадская бальніца “хуткай дапамогі” і

адміністрацыя парку культуры і адпачынку (калі справа тычыцца правядзення акцыі ў парку воінаў-інтэрнацыяналістаў). Такім чынам, паводле меркавання праваабаронцы, хаця працэдура падачы заяўкі сапраўды спрасцілася, аднак мясцовыя чыноўнікі ўсё роўна знаходзяць прычыны, каб не дазваляць “непажаданыя” акцыі. У прыватнасці, падчас падачы заяўкі на пікет, мэта якога была ў тым, каб прыцягнуць увагу да існавання палітычных вязняў у Беларусі, Уладзімір Вялічкін сутыкнуўся з абсурднай сітуацыяй. “Я выканаў патрабаванні беларускага заканадаўства: падаў заяўку, далучыў дамову з медыкамі, але не змог атрымаць дамову за подпісам дырэктара парку. Ён адмовіўся гэта рабіць і напісаў на маёй заяве: "Падрыхтаваць дамову пасля дазволу на яго правядзенне гарадскім выканаўчым камітэтам", - кажа праваабаронца.

У выніку дазвол на тое, каб ладзіць пікет, не быў атрыманы, хаця адказ дырэктара парку супярэчыць самой працэдуры афармлення заяўкі на правядзенне масавага мерапрыемства. Затое фармальна ў гарвынканкаме спасылаюцца менавіта на адсутнасць дамовы з кіраўніцтвам парку, што нібыта з’яўляецца перашкодай, каб даць магчымасць правесці запланаваную акцыю. Уладзімір Вялічікн не выключае, што такі механізм улады будуць выкарыстоўваць і далей, каб пазбегнуць грамадскай актыўнасці.

http://spring96.org/be/news/73125

## На Берасцейшчыне абмяркоўвалі грамадскія праблемы



Праваабаронцы і грамадскія актывісты з розных рэгіёнаў Берасцейшчыны з’ехаліся ў абласны цэнтр на сустрэчу, каб абмеркаваць самыя актуальныя праблемы і спробы іх вырашэння, кажа арганізатар сустрэчы праваабаронца Уладзімір Вялічкін:

- Асноўная мэта гэтай сустрэчы – даць людзям зразумець з рэгіёнаў галоўную рэч: што яны са сваімі праблемамі не сам-насам у



гэтым сусвеце, што людзей з падобнымі праблемамі вельмі шмат і разам вырашаць гэтыя праблемы значна прасцей.

Праблемаў сапраўды хапае, – кажуць удзельнікі сустрэчы, – і адзначаюць нежаданне з боку дзяржавы іх вырашаць:

Уладзімір Шылко, Лунінец: Людзей хвалюе сфера камунальнай гаспадаркі, якасць паслуг, праблема беспрацоўя.

Сяргей Гоўша, праваабаронца, Баранавічы: Адна з найпершых праблемаў зараз – гэта праблема беларускай мовы, якая выціскаецца з ужытку.

Уладзімір Казека, Драгічын: Мне прыйшлося ўзяць надзел зямлі, каб выжыць. Калі аб гэтым даведаўся кіраўнік калгаса, яны проста забралі маю зямлю самавольна. Выдзяляюць зямлю толькі тым, хто блізкі да ўлады.

Паводле Уладзіміра Вялічкіна, улада ўсё робіць для таго, каб чалавек не змог вырашаць свае праблемы. Напрыклад, адвакацкія паслугі дастаткова дарагія. Праваабаронцы дапамагаюць бясплатна, але іх пазбавілі магчымасці прадстаўляць пацярпелых у судзе ды іншых дзяржаўных установах.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-berastsejshchyne-abmyarkouvali-grama/

## Брэст: распаўсюджаны праваабарончы бюлетэнь “Брэсцкае права”

На цэнтральный вуліцах горада і некаторых рынках прадстаўнікі праваабарончай арганізацыі “Беларускі Хельсінкскі Камітэт” і Свабоднага прафсаюза Беларускага распаўсюдзілі некалькі сотняў асобнікаў бюлетэня “Брэсцкае права”.

Як адзначыў адзін з удзельнікаў акцыі Ігар Маслоўскі, уся інфармацыя, змешчаная ў бюлетэні, датычыць мясцовай тэматыкі. “На нашу думку, у Брэсцкім рэгіёне не выконваюцца асноўныя правы чалавека, парушаецца Канстытуцыя краіны і шэраг міжнародных

дакументаў, ратыфікаваных Рэспублікай Беларусь, - пракаментаваў Маслоўскі. - У першую чаргу, гэта тычыцца Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека і Міжнароднага Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Толькі за апошні месяц мясцовыя ўлады некалькі разоў адмаўлялі партыйным і грамадскім актывістам у іх законным праве на мірныя сходы”.

Паводле старшыні рэгіянальнай арганізацыі Свабоднага прафсаюза Беларускага Валянціна Лазарэнкава, падчас распаўсюду праваабарончага бюлетэня, актывісты ладзілі невялікае апытанне наконт выканання правоў чалавека ў рэгіёне. “У размовах з жыхарамі горада фактычна кожны другі сведчыў, што сутыкаўся з парушэннем сваіх палітычных, эканамічных ці сацыяльных правоў”, - пракаментаваў вынікі такіх размоў Лазарэнкаў.

http://spring96.org/be/news/73072

## Бяроза: у правядзенні пікета 8 верасня адмоўлена

Бярозаўскія праваабаронцы і грамадскія актывісты атрымалі адмову на правядзенне пікета 8 верасня. Заяўленая мэта пікета: адзначэнне 500-годдзя бітвы пад Воршай - Дня вайсковай славы, а таксама выказванне пратэсту супраць размяшчэння расійскіх вайсковых баз на тэрыторыі Беларусі і наяўнасці палітычных вязняў.

Адмова падпісана намеснікам старшыні Бярозаўскага райвыканкама Яўгенам Тарасюком, распараджэнне аб адмове -- старшынёй райвыкванкама Юрыем Наркевічам.

Адной з прычын адмовы ў правядзенні пікета стала тое, што ў дзень падачы заявы памылкова была дададзена копія дамовы з ЖКГ на пікет з іншай датай -- 25 жніўня. Нягледзячы на тое, што памылка была заяўнікамі выпраўлена, райвыканкам за яе ўхапіўся. Другой прычынай стала адсутнасць дамовы з міліцыяй, хаця райвыканкам мае даручэнне аблвыканкама аб выпраўленні свайго рашэння “Аб парадку правядзення масавых мерапремстваў” згодна з Пастановай Савета міністраў № 207, павдле якой да міліцыі павінен звяртацца па абслугоўванні пікета сам райвыканкам.

Апошнім часам райвыканкам адмовіў праваабаронцам і актывістам у правядзенні пікетаў на 27 ліпеня і 25 жніўня. Але агулам

ужо 15 гадоў актывісты не атрымалі ніводнага дазволу на пікет у Бярозе.

http://spring96.org/be/news/73019

## Праваабаронцы просяць кіраўніцтва УУС Брэсцкага аблвыканкаму правесці гутарку з падначаленымі аб недапушчальнасці распальвання ў прэсе варожасці да цыганоў

Гомельскія праваабаронцы Алесь Яўсеенка і Марыя Клімовіч звярнуліся з лістамі да начальніка УУС Брэсцкага аблвыканкаму і да кіраўніка аддзелу па справах рэлігій і нацыянальнасцяў аблвыканкаму з просьбай правесці гутаркі з супрацоўнікамі міліцыі і рэдактарам раённай газеты «Ганцавіцкі час» аб недапушчальнасці распальвання ў прэсе варожасці да цыганоў. Таксама заяўнікі просяць абавязаць вінаватых публічна прынесці выбачэнні цыганскай дыяспары за парушэнне этычных нормаў.

Нагодай для звароту стала публікацыя ў раённай газеце «Ганцавіцкі час» пад загалоўкам «Калі прыйшлі ў дом цыганы – званіце ў міліцыю». Аўтарам артыкулу з'яўляецца намеснік начальніка Ганцавіцкага РАУС С.Тарасевіч. Па словах аўтара артыкула, «прадстаўнікі цыганскай нацыянальнасці, якія маюць злачынныя намеры, прыходзяць нібыта прадаваць розныя тавары і рэчы, а таксама пад выглядам работнікаў сацыяльных ці камунальных службаў».

«А хіба злачынцы іншай нацыянальнасці не могуць прадстаўляцца сацыяльнымі работнікамі ці прапанаваць тавары на продаж? З пункту погляду здаровага сэнсу, намеснік начальніка РАУС павінен быў папярэдзіць жыхароў раёна аб тым, што ў службовых асоб патрэбна папрасіць пасведчанне, а з гандлярамі размаўляць толькі на вуліцы. Замест гэтага ён абражае увесь цыганскі народ», - звяртаюць увагу ў звароце праваабаронцы.

Яны таксама адзначаюць, што дадзеную публікацыю ў раённай газеце перадрукаваў сайт «Правыя навіны», які адкрыта і ў жорсткай форме прапагандуе дыскрымінацыю па нацыянальнай прыкмеце.

Гомельскія праваабаронцы неаднаразова звярталі ўвагу

ідэолагаў і міліцэйскае кіраўніцтва на публікацыі ў СМІ, якія дыскрэдытуюць цыганоў. «Магчыма, службовыя асобы рознага ўзроўню лічаць прадстаўнікоў дадзенай этнічнай групы людзьмі другога гатунку і не турбуюцца аб тым, што падумаюць пра іх і палітыцы дзяржавы ў сферы міжнацыянальных адносін законапаслухмяныя ромы. Што ж, мы гатовыя, калі патрэбна, працягнуць працу. Як гаварылі рымляне – капля вады точыць камень не сілай, а частым падзеннем», - пракаментавала Марыя Клімовіч.

http://spring96.org/be/news/73310

## Брэст: абласны суд адхіліў скаргу былой кандыдаткі ў дэпутаты гарадскога Савета




Старшыня Брэсцкай гарадской арганізацыі Беларускай партыі левых “Справядлівы свет” Людміла Дзенісенка дамагалася, каб была распачатая грамадзянская справа наконт неправамерных дзеянняў мясцовых выбаркамаў і дзяржаўнага органа.

Ад гэтых установаў Людміла Дзенісенка, якая балатавалася ў Брэсцкі гарадскі Савет дэпутатаў па выбарчай акрузе №13 падчас мясцовых выбараў у сакавіку 2014 года, спрабавала атрымаць звесткі наконт тых, хто браў удзел у галасаванні па месцу свайго жыхарства. Атрымаўшы адмову, Дзенісенка звярнулася ў суд Ленінскага раёна Брэста. Аднак суддзя Алена Кавальчук прыняла рашэнне не распачынаць справу, бо скарга ня можа быць разгледжана “з прычыны яе непадведамаснасці”. Пры гэтым Кавальчук спаслалася на тое, што ў Выбарчым кодэксе РБ нічога не гаворыцца пра магчымасць абскарджвання кандыдатам у дэпутаты рашэнняў выбаркамаў наконт адмовы ў азнаямленні са спісамі грамадзян, якія бралі ўдзел у галасаванні.

Брэсцкі абласны суд таксама пакінуў скаргу без задавальнення, але Людміла Дзенісенка мае намер працягваць барацьбу. “Пасля выбараў я звярталася ў розныя ўстановы - выбаркамы, пракуратуры,

органы дзяржаўнага кіравання – і зараз засталася толькі адзіная магчымасць дамагчыся справядлівасці – праз суд. Бо, згодна з Канстытуцыяй РБ, суд мусіць быць непрадузятым і абавязаны прыняць маю скаргу да разгляду. Паколькі гэтага пакуль не адбылося, я гатовая прайсці ўсе судовыя інстанцыі ў Беларусі і, калі, справа не будзе разгледжана, вымушана буду звяртацца ў Камітэт па правах чалавекаААН ", – паведаміла актывістка партыі "Справядлівы свет".

http://spring96.org/be/news/73335

## Бярозаўскія праваабаронцы звярнуліся ў суд

Праваабаронцы Сяржук Русецкі і Тамара Шчапёткіна, а таксама грамадская актывістка Таццяна Тарасевіч звярнуліся ў суд Бярозаўскага раёна са скаргай на адмову Бярозаўскага райвыканкама ў правядзенні пікета 25 жніўня. У адмове райвыканкам спаслаўся на адсутнасць дамовы з міліцыяй і занятасцю стадыёна балельшчыкамі падчас спартовага мерапрыемства менавіта 25 жніўня.

Заяўнікі пікету праверылі аргумент райвыканкама наконт занятасці стадыёна. Трыбуны аказаліся зусім пустыя, а на футбольным полі было 25 чалавек, частка з якіх гулялі ў футбол, а частка рабілі прабежку вакол футбольнага поля. Зроблены былі фотаздымкі для доказу неабгрунтававнасці адмовы для суда. Хаця, трэба адзначыць, заяўнікі сціпла замаўлялі ўваход ля стадыёна на 10 чалавек.

Што датычыць адсутнасці копіі дамовы з міліцыяй, то згодна Пастановы Савета Міністраў №207, гэта павінен рабіць сам райвыканкам.

Заяўленая мэта пікета: нагадаць бярозаўчанам пра Дзень незалежнасці 27 ліпеня, які быў замацаваны канстытуцыйна 25 жніўня 1991 года , выказаць пратэст супраць размяшчэння вайсковых расійскіх баз на тэрыторыі Беларусі, а таксама выказаць салідарнасць з палітвязнямі.

http://spring96.org/be/news/73324

## За 17 гадоў – ніводнага дазволу

Бярозаўскія праваабаронцы ўпарта вырашылі дамагацца справядлівасці цывілізаваным шляхам у канстытуцыйным праве на правядзенне масавых мерапрыемстваў. Яны ў чарговы раз звярнуліся ў суд Бярозаўскага раёну з абскарджваннем незаконнай адмовы пікету на 25 жніўня. Абсалютна ніякіх падставаў для адмовы не было, кажа адзін з заяўнікаў пікету Сяржук Русецкі:

- Калі асноўнымі прычынамі адмовы ў правядзенні пікету было тое, што да заявы на правядзенне пікету не была далучана дамова з РАУС і што ў гэты дзень на стадыёне спартовая школа планавала правесці нейкія свае спартовыя мерапрыемствы. Падчас меркаванага пікету, ад 18-й да 19-й гадзіны, на гарадскім стадыёне не ладзіліся нейкія масавыя спартовыя мерапрыемствы, якім мог бы перашкодзіць наш пікет каля ўваходу на стадыён.

Што датычыць адсутнасці копіі дамовы з міліцыяй, то згодна з пастановай Савета Міністраў №207, гэта павінен рабіць сам раённы выканкам.

За 17 гадоў бярозаўскія раённыя ўлады не далі ніводнага дазволу праваабаронцам і грамадскім актывістам на правядзенне масавых мерапрыемстваў.

http://www.racyja.com/hramadstva/za-17-gadou-nivodnaga-dazvolu/

## Выстава "Горад, які ты страціў" – першая акцыя культурнага супраціву ў Пінску



Чвэрць стагоддзя таму ў Пінску адбылася першая грамадская апазіцыйная акцыя за савецкі час. Дырэктар гарадской дзіцячай мастацкай школы, графік Яўген Шатохін арганізаваў вулічную экспазіцыю, ў якой задаўся пытаннем: "Хто вінаваты ў знішчэнні




гісторыка-архітэктурнай спадчыны Пінску?”

Мастак паказаў пінчанам прыгажосць старога Пінска і параўнаў з тагачасным выглядам. Эфект быў ашаламляльны, – ўзгадвае краязнаўца Эдвард Злобін:

- Калі ён зрабіў выставу “Горад, які ты страціў”, выстава пінчан проста ўзрушыла. Я ведаю вельмі шмат людзей, якія пачалі цікавіцца горадам.

Грамадская акцыя Шатохіна паўплывала на лакальныя палітычныя змены. Ужо вясной 1990 году ў сталіцы Палесся адбываецца першы мітынг апазіцыі, які правёў Яўген Шатохін.

Да першай паловы нулявых мастак заставаўся нязменным арганізатарам у Пінску публічных грамадска-палітычных мерапрыемстваў.

http://www.racyja.com/hramadstva/25-gadou-tamu-u-pinsku-adbylasya-pershaya-z/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»